# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 36 (1530) ГОД XXX БЕЛАСТОК 8 ВЕРАСНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.




На сходзе ў Гайнаўцы, злева направа: кандыдаты на паслоў М. Клімовіч і А. Навачкая, вядучы сход дзеяч ПРОНу А. Зін, віцэ-ваявода Ю. Сляжынскі і кандыдат на пасла Я. Чыквін.

## ЛЮДЗІ НЕ ТОЯЦЦА

Праўдзівая дэмакратыя — рэч набыўная, як кажуць людзі, магчымая да здзяйснення ў жыцці. Увачавідкі гэта відаць з сёлетняй выбарчай кампаніі. Ужо трэці тыдзень па ўсёй краіне праходзяць кансультацыйныя сустрэчы кандыдатаў на паслоў у Сейм — так завуцца ў афіцыйнай фармуліроўцы гэтыя сапраўдныя народныя сходы — часцей за ўсё шматлюдныя, бурлівыя, гарачыя. І то незалежна ад таго, ці адбываюцца яны ў Беластоку, Бельску, Чаромсе або ў іншых большых ці меншых мясцінах. Проста людзі не баяцца рэзаць уладам уголас і ўвочы матку-праўду, калі адчуваюць, што справядлівасць на іх баку. Даюць будучым кандыдатам у паслы цвёрдыя і настойлівыя ўрокі пра тое, што іх хвалюе, злуе, абурае, але таксама, што падбадзёрвае, радуе, заахвочвае да працы. І пры тым кожны выступаючы — звычайны селянін ён ці рабочы, заслужаны настаўнік ці малады інжынер — выказваецца сэнсоўна, разважліва, з клопатам пра дабро ўсіх. Не чуваць было дэмагагічных выкрыкаў супраць народнай дзяржаўнасці ці сацыялістычнага ладу, а калі і здараліся неабдуманыя адрыжкі з мінулых гадоў, самі сабраныя „гасілі“ такіх аматараў пашырасавацца ды танна заваяваць сабе папулярнасць. Цяжкія гады грызні, калатні і завірухі навучылі людзей грамадзянскай адказнасці за ўчынак і слова, балюча пераканалі, куды вядзе гарлахвацтва, безадказнасць, анархія. Навучылі думаць па-грамадзянску, сур'ёзна.

(Працяг на стар. 4)

## ДОБРАЕ СУСЕДСТВА ПАТРАБУЕ ВЕДАННЯ СУСЕДЗЯЎ

### ІНТЭРВ'Ю З ПРАФЕСАРАМ ЕЖЫ ТАМАШЭЎСКІМ

**— Вы вядомы як даследчык нацыянальнага пытання. Які генезіс вашых зацікаўленняў?**

— Перш за ўсё, па адукацыі я эканаміст, і навучыўся карыстацца статыстыкай, гаспадарчымі дакументамі і г.д., а гэта ў даследаванні гісторыі нацыянальных меншасцей часам мае вялікае значэнне. А з нацыянальным пытаннем сустрэўся я ўжо ў дзяцінстве. Жывучы да вайны ў малых мястэчках цэнтральнай Польшчы, назіраў я яўрэяў, якія складалі тут значны працэнт насельніцтва. Затым была кніжка Фердынанда Асэндоўскага „У польскіх джунглях“, у якой апісваліся канікулы групы вучняў не так у „польскіх джунглях“, як сярод лясоў, балот Палесся. Вядома, аўтар пісаў не аб беларусах ці украінцах, а аб „тубыльцах“ або палешуках. Аднак кніжка паказвала зямлю і людзей, выклікала зацікаўленне іншымі звычаямі і культурай. У адрозненні ад іншых аўтараў (напрыклад, шматлікіх твораў Марыі Радзевічуўны), Асэндоўскі не прапаведваў непрыхільнасці да „чужых“ або „прымітыўных варвараў“, а вучыў пашане да іншых людзей. І хоць сёння цяжка было б згадзіцца з многімі вывадамі аўтара, гэта мая першая сустрэча з Беларуссю пакінула добрую памяць. Пазней, калі я пачынаў уласныя доследы, пастаянна з'яўляліся пытанні нацыянальных меншасцей: асіміляцыя некаторых асяроддзяў, асабліва буржуазных, зямельнае пытанне, складанасць дробнага гандлю і рамесніцтва. А таксама пошукі развязкі, якія рабілі больш празорлівыя польскія палітыкі. Гісторыя польскага народа так моцна сплецена з гісторыяй беларусаў, літоўцаў, украінцаў і яўрэяў, што на кожным кроку сустракаем гэтыя пытанні.

**— Якія мэты ставіце перад сваімі даследаваннямі, прысвечанымі нацыянальным меншасцям?**

— Мучыла мяне пытанне, чаму ў міжваенных гадах не ўдалося знайсці вырашэння нацыянальных праблемаў незалежнай Рэчыпаспалітай. Чаму ў дзяржаве, якая ўзнікла ў выніку ба-

(Працяг на стар. 3)




## АБ „НІВЕ“ — ЯКАЯ ПАВІННА БЫЦЬ?

У 24 нумары „Нівы“ быў надрукаваны ліст Міколы Андрэевіча аб тым, якой павінна быць „Ніва“.

Тэма вельмі цікавая, таму добра, што разгарнулася шчырая дыскусія. Ад галасоў чытачоў і сімпатыкаў у многім залежыць, ці „Ніва“ стане папулярнай, ці будзе „нудзіць“, як гэта канстатуе аўтар ліста.

Не ведаю, чым кіраваўся паважаны сябра Андрэевіч, сцвярджаючы, што „Ніва“ толькі для старых і дзяцей. Мне здаецца, што гэта яго ўласны пункт гледжання, без апраўдання. Доказам гэтаму можа быць рэпліка 20-гадовага чытача з Сямяціч Андрэя Мартыновіча.

Андрэевіч прапануе, каб „Ніва“ занялася „сексам“, то з'яднае сабе больш сімпатыкаў. Я не толькі не падтрымліваю прапановы сябра Андрэевіча, а рашуча заяўляю сваё „не“. Голыя бабы не для „Нівы“! Гэта ж не бульварная газета, а паважаны ў нас і за рубяжом часопіс. А з'яднаць шырэйшы круг чытачоў можна і іншым спосабам.

На маю думку, „Ніва“ павінна друкаваць у адрэзках цікавую аповесць, напрыклад, пра шпіянаж, ці нейкі крымінал з „дрыжыкамі“, паказваць людзей добрай работы і партрэты знатных землякоў — беларусаў з Беласточчыны, займаючых высокія пасады ў дзяржаўных установах нашай краіны. Зараз надта мала ўвагі прысвячаем мы ўспамінам нашых бацькоў і дзядоў аб мінулым і сённяшнім жыцці, аб нашай культуры і традыцыях. Праўда, ад нейкага часу Міра Лукша ў сваіх „Замалёўках з жыцця“ робіць гэта вельмі добра. Ды гэтага мала! Мне, напрыклад, падабалася калісь рубрыка „І так бывае“. У ёй паказваліся жывыя факты, узятыя з жыцця. Гэта прыводзіла чытача да задумы і рэфлексіі.

У сваёй рэпліцы малады чытач з Сямяціч просіць увесці пастаянную рубрыку для старэйшай моладзі. І слушна. Даўней моладзь знаходзіла ў „Ніве“ песні па заяўках, фота вядомых песняроў, ці калектываў. А зараз? Толькі „Сэрцайка“ і „Астрон“ крэпяць духам маладых. А ці нельга было б паказваць у „Ніве“ беларускіх ці савецкіх спевакоў, такія калектывы, як „Песняры“, „Верасы“, Трыо Марыніч і г.д. Скажаце — адкуль гэта браць? Што ж не робіцца для рэкламы! З-пад зямлі да-

(Працяг на стар. 3)

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Амаль усе хлопцы, засноўваючы сям'ю, баяліся, каб не трапілася ім жонка са злосным характарам. I таму многія з іх, калі мелі магчымасць выбраць жонку сярод знаёмых дзяўчат, праводзілі розныя „эксперыменты", якія былі формай праверкі характару кандыдаткі ў жонкі. Некаторыя са старэйшых інфарматараў гавораць, што з мэтай праверкі ў часе патанцовак, вечарніц ці супольнай працы, моцна шчыпалі ўпадабаных дзяўчат, валіліся на іх усім целам, папіхалі іх або нават білі. Лагодная рэакцыя такой дзяўчыны сведчыла аб добрым яе характары, гвалтоўная рэакцыя прадказвала катэгарычнасць характару. Зразумела, што і дзяўчаты мелі сваю тактыку і не заўсёды праяўлялі свой сапраўдны характар.

Цікавыя ў гэтым аспекце выказванні жыхара вёскі Бандары, Андрэя Казберука, які нарадзіўся праўдападобна каля 1870 года і з якім мне давялося гадоў сорак таму назад на працягу многіх тыдняў пасвіць каровы. Вось прыблізны сэнс яго выказванняў: „Бывало калісь, калі я быў маладым хлопцам, і ўжэ разам з сваімі калегамі падумваў жаніцца, то ўсё мы думалі, як тут праверыць характар дзяўчат, каторых думалі браць за жонак. Чаго толькі не прыдумвалі. То шчыпалі, то пхалі, то хваталі за сракі, або выскоквалі вечарам знячэўку дзесь з-за вярбы, каб моцна спалохаць. А бывало і так, што як хадзілі разам на заробкі, то навет часом з'едалі іхнюю яду. Усё так хацелі даведацца, як яны будут паступаць. Будут злаваць ці не будут. Бо старэйшыя нам гаварылі, што калі катора з іх мае напраўду добры характар, то рабі ёй што хочаш, а яна і так не скажэ табе кепского слова. А калі катора адразу табе наплявузгае, значыт, мае чорта за скураю. Ад такое ўцякай, як ад агню. Ну і правяралі мы так і правяралі і ўрэшце пажэніліся з тымі добрымі, просто ангеламі. Ні прашло і пару месяцаў пасля вянцу, як аказалася, што кажда з іх горш за чорта. От, табе і праверылі! Німа нічого хітрэйшаго на гэтым свеце, як баба, от што".

Вяртаючыся да акту сватоў, трэба сказаць, што нярэдка пэ такіх ці іншых прычынах дзяўчына рашуча не падабалася хлопцу. У такой сітуацыі даваў ён маршалку загадзя ўстаноўлены сігнал. Магло гэта быць: два разы паўторанае слова, падвойны штуршок рукой або нагой ці нешта іншае. Атрымаўшы такі сігнал, маршалак, як правіла, прыступаў да справы пасагу і ставіў у гэтай галіне такія патрабаванні, якія ў ніякім выпадку не маглі быць споўнены гаспадарамі. Калі бацькі дзяўчыны заяўлялі, што ў ніякім выпадку не змогуць даць такога пасагу, тады маршалак заяўляў, што яны будуць шукаць багацейшай кандыдаткі на жонку і выходзілі з хаты.

Пасажная прычына была карысная для абодвух бакоў. Дзякуючы ёй госці з гонарам пакідалі дом, а дзяўчына і яе бацькі мелі ганаровае вытлумачэнне перад суседзямі.

I яшчэ адна характэрная рыса абраднасці, звязаная са сватаннем. Калі хлопцу дзяўчына вельмі моцна спадабалася, у ніякім выпадку ён не павінен быў выяўляць сапраўдны стан сваіх пачуццяў. Мусіў прыкідвацца скептычным і абыякавым. Справа ў тым, што бацькі дзяўчыны ўважна назіралі за хлопцам і ўсялякі яго энтузіязм у адносінах да іх дачкі аўтаматычна, як быццам бы, аслабляў пазіцыю хлопца і маршалка ў справе характару і велічыні пасагу. Чым болей быў захоплены хлопец дзяўчынай, тым па меншы пасаг мог разлічваць.

**А. Баршчэўскі**

# ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

## РАСЛІНА З МЯЖЫ

Старэйшым жыхарам Беласточчыны крываўніку ні прадстаўляць, ні рэкамендаваць не трэба. Яшчэ ў часы мае маладосці яго зелле было, мабыць, у кожнай хаце. У асяроддзі нашых суседзяў панаваў красачны звычай збіраць крываўнік як апошнюю расліну падчас гэтак званага „аўсянога жніва". Купкі гэтай шматгадовай расліны з інтэнсіўным, асаблівым пахам можна было сустрэць на кожнай мяжы, польнай сцежцы ці на ўскраіне пашы. Скасіўшы авёс і вяртаючыся дадому, людзі зрэзвалі адну-дзве купкі крываўніку. „Секануць" трэба было меней-болей у палове вышыні расліны. Зрэзанае зелле вязалі ў пучочкі таўшчынёй у палец і вешалі ў сенях або на гары пад страхой.

Ці ўсе патрабавалі і ўжывалі крываўнік? Пераважна — не, але як маўляла мая бабулька:

— Крываўнік збіраюць на ўсялякі выпадак.

I на самай справе, ён — расліна, якую варта мець у хатняй аптэчцы. Крываўнік звычайны (лацінская назва — Achillea millefolium, krwawnik pospolity — па-польску, тысячелистник обыкновенный — па-руску) — гэта ж адно з найдаўнейшых лякарстваў ад кровацячэнняў, таксама ўнутраных, як і знешніх. У народнай медыцыне напаранне або выцяжка (экстракт) з зелля крываўніку прымянялі пры кровацячэннях са страўніка, гемароі, кровацячэннях з маткі, лёгкіх, носа і ранаў. Сучасная навуковая медыцына ўсе гэтыя спасцярогі пацвердзіла і зелле крываўніку лічыць лякарствам прыгодным „пры неспецыфічных кровацячэннях, асабліва пры язве страўніка і кішок, а таксама пры кровацячэннях з вен у прамой кішцы". Лічыцца, што крываўнік як лякарства супраць кровацячэнняў не ўступае вітамін К, якая не заўсёды бывае пад рукой. Найчасцей прымяняецца напаранне: 1 гарбатняя лыжачка сухога зелля крываўніку на шклянку вады, або халодныя выцяжкі: 1 сталовую лыжку сухога зелля заліць шклянкай пераваранай, астуджанай вады і пасля шасці гадзін працадзіць. Таксама напаранне як і выцяжку п'юць перад ядой тры разы ўдзень па паўшклянкі. Быццам бы яшчэ больш эфектыўнае лякарства — гэта выціснуты са свежага лісця сок. Прымяняюць яго таксама тры разы ўдзень па дзве гарбатнія лыжачкі на паўшклянкі вады. Выціснуты сок наогул нельга захоўваць. Свежае лісце крываўніку, пацёртае ў пальцах калісьці ўкладвалі ў нос пры раптоўных кровацячэннях або прыкладалі да раны пры акалечаннях, каб паўстрымаць крываўленне.



Зелле крываўніку валодае ўласцівасцямі не толькі супраць кровацячэнняў. „Выцяжку з крываўніку, — піша праф. А. Ажароўскі, — прымаюць таксама, калі няма апетыту, пры малым выдзяленні страўнікавага соку, нязначных працяглых парушэннях стрававання, недастатковым засваенні ежы, уздуцці, адрыжках". У такіх выпадках вышэй пададзеныя прапорцыі ў нарыхтоўцы лякарства трэба, аднак, павялічыць: або змяншаючы колькасць вады, або павялічваючы колькасць зелля. У лячэнні расстройства стрававання выкарыстоўваюць таксама самыя кветкі крываўніку. Прымяняюцца яны амаль таксама, як рамонак.

У ветэрынарыі крываўнік прымяняюць як лякарства пры ўнутраных кровацячэннях, супраць глістаў і пры лячэнні парушэнні стрававання ў цялят.

Крываўнік мае значную прыдатнасць таксама ў хатняй гаспадарцы. Яго свежае лісце аматары смакавітасцяў дадаюць як прыправу да салатаў, мясных і рыбных страваў, а на зеллі нарыхтоўваюць горкія налійкі. Сок з зелля ўжываюць як сродак асвяжаючы і выбельваючы скуру твару.

Варта таксама ведаць, што адвар або водная выцяжка з зелля крываўніку — гэта атрутнае рэчыва для знішчэння насякомых, якое ўжываюць супраць тлі, вусеніц і іншых шкоднікаў пладовых дрэваў і кустоў. Нарыхтоўваюць яго ў прапорцыі: 0,7–0,8 сухога, або 2–2,5 кг свежага зелля крываўніку на 5 літраў вады. Можна яго заварыць (25-30 мінут), або накрыць і паставіць на 1-2 сутак (у залежнасці ад тэмпературы паветра). Перад апырсканнем дрэваў і кустоў адвар трэба крыху развесці.

**Б. Наскрэбка**

# СЭРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка!

Я — дзяўчына сярэдняй прыгажосці. У кожным выпадку, так мне здаецца, і ў мужчын асаблівым поспехам не карыстаюся. Бывае, што не маю мужчыны паўгода, а то і больш. I раптам здарылася са мною нешта такое, чаго і ў сне не сустрэнеш. Я завочна вучуся ў Варшаве. На апошняй сесіі з'явіўся ў нас новы выкладчык. Мужык ужо ў гадах, але нейкі такі сімпатычны. Як толькі я яго ўбачыла, дык адразу пастанавіла: „Будзе мой". Усю лекцыю, як заварожаная, не спускала з яго вачэй, але ён, як бы, не звяртаў на мяне ніякай увагі. I вось пасля заняткаў мой „Лысунчык", як я яго ўжо ў думках называла, падыходзіць да мяне і прапануе пайсці з ім у рэстаран паабедаць. Ад уражання я несамавіта збянтэжылася. Чаму выбраў мяне? Ёсць жа на курсе прыгажэйшыя! Але ў душы я была яму ўдзячна і прыняла прапанову. „Лысунчык" аказаўся цікавым расказчыкам, і за абедам час праляцеў непрыкметна. Так жа (непрыкметна!) апынуліся мы ў яго кватэры (жонка з дзецьмі была на вёсцы ў бацькоў). Тут ён і стаў маім. Усё адбылося маланкава. Не паспеў ён і пацалаваць мяне, як ужо былі мы ў ложку. Хоць я і восем месяцаў не мела мужчыны, і хоць „Лысунчык" праявіў выдатныя плоцевыя якасці, галава кружылася ад шчасця па іншай прычыне. Вось я, дагэтуль мала прыкметная дзяўчына, за лічаныя гадзіны давяла вучонага дзядзьку да такога палу. Думка, што магу і я быць пакарыцелькай мужчынскіх сэрцаў, ашаламляла. Ды цешылася я сваім шчасцем нядоўга. Ачуняўшы ад пачуццяў, мой зрынуты кумір прызнаўся, што гэта ён мяне выбраў на свае цялесныя ўцехі. Аказаўся ён тонкім псіхолагам і заядлым сэрцаедам. Я была толькі чарговай яго „ахвярай". Прыемныя хвіліны, якія я толькі што перажыла, расплыліся, як міраж, і я вярнулася з любоўнае прыгоды з разбітымі думкамі, з прыгнечаным настроем. А што ты на гэта, Сэрцайка?

**Расчараваная**

У цябе, як відаць, нядрэнны ўжо плоцевы вопыт. Пара замуж.

ч.в.а. Сэрцайка

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Баламутка на ўсякія штукі хутка.

*

Глянеш — хоць пацалуй, а прыгулішся — плюнеш.

*

Гора маё чубатае: ніхто мяне не сватае.

*

Гэта толькі цвет, а ягадкі будуць.

*

Дагадайся, казача, чаго дзеўка плача.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Зорка

## Старонка для дзяцей



Адась Койла са школы № 2 у Гайнаўцы. Фота Я. Чэрнякевіч.

Дзед Васіль і баба Васіліса, хоць і пенсіянеры, але без работы сядзець не могуць.

Двух сыноў і дзвюх дачок выгадавалі і вывучылі дзед Васіль і баба Васіліса. І тыя, нібы птушкі, разляцеліся па белым свеце. Пажаніліся і замуж павыходзілі, свае сем'і займелі. Бацькі рэдка ў госці наведваюцца, затое іх дзеці ўлетку часта гасцююць у дзеда Васіля і бабы Васілісы. Хата іх з раніцы да вечара гудзе, звініць, нібы пчаліны вулей.

Апошняя хатняя баталія паміж унукамі адбылася тыдзень назад, перад прыходам дзеда і бабы з поля.

— Зноў нашы свавольнікі вайну ўсчалі, — заўважыла баба, увайшоўшы ў двор.

Дзед схапіў папружку і ў момант апынуўся паміж ваякамі. Яму спатрэбілася ўсяго дзветры хвіліны, каб памірыць гэтых распуснікаў, як ён назваў іх тады пад гарачую руку.

Толькі з надыходам вечара, калі ўнукі павячэралі і ўлегліся спаць, у хаце запанавала цішыня.

Тады старэйшы Алёша ласкава папрасіў бабулю:

— Раскажы нам якую-небудзь казку.

— Толькі новую, — дадаў Юрка.

— Новую? — перапытала баба. — Новай пакуль што не ўспомніла.

— Сёння новую казку я вам раскажу... Хоць і кароткая, ды цікавая, — раптам азваўся дзед. — Ну, дык слухайце...

Яшчэ нядаўна жыла-была ў суседняй вёсцы старэнькая і сівенькая бабуля. Звалі яе чамусьці не Марыяй і не Мар'яй, а Мар'янкай. Дажывала свой век Мар'янка адна. Муж і два сыны яе загінулі на апошняй вайне. А дачку-партызанку фашысты закатавалі.

Хоць бабуля Мар'янка не мела каровы, затое казу, курэй і гусей трымала. Хапала ёй клопату. Напрацуецца, бывала, за доўгі летні дзень на агародзе, натупаецца за казой ды гусямі, ледзь у хату ўваліцца. Але і ў хаце, як вядома, спакойна пасядзець няма калі: тая ці іншая работа заўсёды знойдзецца.

І вось аднаго разу прыгнала Мар'янка з лугу сваю казу-дзерезу ў двор і бачыць: каля сяней горка пасечанага ламачча, а за ім кошык накапанай бульбы стаіць.

Нічыпар Парукаў

## САКРЭТ

Запыталася бабуля ў суседзяў, ці не бачылі, хто гэта сёння ў яе двары гаспадарыў. Суседзі адказалі, што нікога не бачылі.

Назаўтра зноў нехта ў Мар'янчыным двары папрацаваў: бялізну памыў і развесіў на плоце сушыцца.

„Трэба прасачыць, хто гэта мне ў працы дапамагае", — вырашыла бабуля. Зачынілася яна ў хляве і праз шчыліну пазірае. А каб без прычыны дарма не сядзець, узялася за шыццё новай кашулі. Прасядзела да паўдня ў хляве, але нікто за гэты час нават і веснічак не адчыніў. А шыццё амаль што і не пачынала. Толькі і паспела палатно раскроіць. „Заўтра вазьмуся за шыццё кашулі", — надумала бабуля Мар'янка і, паклаўшы палатно і клубок нітак з іголкай на ўслончык пад паветкай, пагнала казу на луг пасвіць. Калі ж пад вечар прыгнала яе дадому, убачыла: двор чыста падмецены і пяском пасыпаны, а на ўслончыку ляжыць пашытая кашуля.

Дзівілася старая, расказвала суседзям пра невядомых і нябачных памочнікаў.

— Гэта цябе красналюдкі ўпадабалі і сталі дружна дапамагаць у працы, — аднойчы растлумачыў ёй вясковы настаўнік.

— Хто такія красналюдкі? — спалохана запыталася бабуля. — Можа, гэта нейкія нячысцікі хвастатыя?

— Не, гэта чароўныя чалавечкі-карлікі, — адказаў настаўнік. — Яны сябруюць толькі з працавітымі людзьмі, дапамагаюць ім у працы тады, калі іх ніхто не бачыць, ніхто за імі не сочыць.

Дзед Васіль у гэты вечар расказваў і расказваў, як тыя нябачныя чалавечкі-карлікі шмат добрага зрабілі бабулі Мар'янцы, як амаль кожны дзень старанна дапамагалі па гаспадарцы.

З цікавасцю слухалі ўнукі гэту новую казку дзеда Васіля, пакуль не заснулі. Нават і ў сне бачылі красналюдкаў.

А назаўтра раніцай, лежачы ў пасцелі, Алёша прашаптаў на вуха меншаму брату:

— Я ведаю сакрэт, як можна ператварыцца ў красналюдка. Ты хочаш ім стаць?

— Хачу. А як гэта зрабіць? — азваўся Юрка.

— Вельмі проста... Вось толькі, ці згодзішся з маёй прапановай, — прашаптаў Алёша. — А без згоды нічога не атрымаецца...

У гэты ж дзень, калі дзед Васіль і баба Васіліса былі ў полі,

(Працяг на стар. 10)

## Для самых маленькіх

Мікола Чарняўскі

### КОЛЬКІ

Я пайшоў у першы клас.
А са мной —
Сяргей,
Тарас,
Клава,
Зіна,
Кім,
Пятрусь,
Каця,
Саша
І Кастусь.
Нас рассаджваць пачалі —
Мы пяць партаў занялі.
І яшчэ у гэты час
Шмат зайшло дзяцей у клас.
Палічыў іх потым я —
Больш, чым нас, было ўдвая.
Колькі партаў месціць клас?
Колькі ўсіх у класе нас?

### ШТО ЗА ДОЖДЖ?

Што за дождж?
Ён лье і лье!
Выйсці
З дому
Не дае.

Я да шыбы
Як прыкуты,
Ледзь не плачу
Ад пакуты:
Паспрабуй
Уседзь
Адзін,
Можа, тры
Ці пяць
Гадзін?
Не схавалі б
Дажджавік —
Я даўно б
З кватэры
Знік...

Дождж,
Табе
Лягчэй, вядома:
Ты —
На вуліцы,
Я ж —
Дома.



Гэтыя дзяўчаткі са Старога Корніна яшчэ малыя, а ўжо прыгожа спяваюць і ведаюць шмат беларускіх песень. Фота Я. Чэрнякевіч.

З армянскага гумару

## НЯЎДАЧА МЕЛІКА *)

Аднойчы Мелік і Пулу-Пугі пайшлі разам у сад.

— Пугі, давай залезем на дрэва і пакаштуем тутавых ягад, — прапанаваў Мелік.

Пулу-Пугі зразумеў, што Мелік задумаў пажартаваць з яго.

— Добра, няхай доўгім будзе жыццё Меліка! — сказаў Пулу-Пугі. — На дрэва, дык на дрэва.

Мелік загадзя падгаварыў садоўніка схаваць чаравікі Пулу-Пугі, як толькі той узлезе на дрэва, таму і сказаў:

— Пугі, я босы палезу на дрэва. Раю табе зрабіць тое ж. У чаравіках можна пaслізнуцца і ўпасці.

— Добра, няхай доўгім будзе жыццё Меліка!

Пулу-Пугі зняў чаравікі, звязаў іх і закінуў за плечы.

— Што ты робіш, дурань, навошта табе чаравікі? Пакінь іх лепш на зямлі!

— Няхай доўгім будзе жыццё Меліка! — адказаў Пулу-Пугі. — Але хто можа ведаць, што з намі будзе? Можа я не вярнуся больш на зямлю і прама з дрэва траплю ў рай.

*) Мелік — памешчык.

## НАТАТКІ ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

„Дзіця плаксівае. Спадчыннасць абцяжарана. Дзед па лініі маці быў дырэктарам піўзавода".

„Хворы не п'е, не курыць, алкаголь ужывае ў межах дапушчальнай нормы: па святах і з выпадку атрымання авансу".

„Хоць хвораму паралізавала правую нагу, ён ёю нядрэнна варушыць".



# НІУКА



## ГУМАР З БАРАДОЮ

### СВІННЯ ЦІ ВЯПРУК

Нейк перад раніцай пагрукалі ў акно. Гаспадар выйшаў. На панадворку стаяў незнаёмы мужчына.

— Драстуйце, — пачціва пакланіўся ён гаспадару, — будзьце такі добры, дапамажыце вепрука падняць, бо вязлі на базар, а ён скочыў з воза.

Узяліся дружна ды й усадзілі вепрука на воз.

І такі жа ж рады той незнаёмы, так шчыра дзякуе. На гэтым і разышліся.

Раніцай жонка выйшла гаспадарнічаць, а свінні ў хляве — няма.

### ШТО НАД ГАЛАВОЮ?

Настаўнік: — Што мы бачым над галавою ў пагодны дзень?

Вучань: — Блакітнае неба.

Настаўнік: — А ў дождж?

Вучань: — Парасон.

### ПАРАІЎ

Два задрыпанцы былі на рыбах. Аднаму пашанцавала: ён выцягнуў вялікага ляшча, які шалёна біўся і ніяк не даваўся ў рукі.

— Паслухай, як мне яго прыкончыць? — спытаў удачлівы рыбак.

— А ты яго ўтапі!

### КАБ ПАЛЕГЧАЛА

— Ведаеце, сусед, мне ноччу так балелі зубы, што я аж на сцяну лез. Калі так будзе і надалей, то ўжо не ведаю, што рабіць.

— А вы прыстаўце нанач да сценкі драбіну.

Памятаў толькі тых, каго не жадаў і ведаць.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Двое маладых прыносяць у загс заяву на шлюб.

— Колькі ж вам гадоў? — пытае сакратарка.

— Васемнаццаць, — адказваюць.

— Вучыцеся?

— Не. Толькі што закончылі школу.

— Працуеце?

— Не. Яшчэ не вырашылі куды пайсці.

— Як жа вы думаеце весці сямейнае жыццё? Вы ж да яго не прыстасаваны.

— Не хвалюйцеся за нас, — кажа нарачоны. — Мы ўсё абмеркавалі. Мае бацькі будуць даваць сто рублёў штомесяц. Яе бацькі — таксама... А калі мы будзем мець такія грошы, для іх ужо не будзе праблемай нас пракарміць.

## МІНІВЕРШЫ

### ДАПРЫПІСВАЎСЯ

Робячы прыпіскі,
Думаў пра ўзлёт,
Ды зляцеў з пасады
Ліпавы пілот.

### ДАСПАЎСЯ

У летні дзень ён смачна спаў
І аб кармах зусім не дбаў,
Як дзень зімовы надышоў —
З рукой працягнутай пайшоў.

**Язэп Кудзеля**

### З „Весніка Задрыпонії"

### ВЫНІК АКСЕЛЕРАЦЫІ

На дзве галавы перарос уласнага бацьку сямікласнік В. Бугаюк.

Цяпер ужо кволы бацька двоечніка прадбачліва вяртаецца з працы дадому толькі тады, калі сынок лёг спаць...

### БОНТОН

Ні ў якім выпадку не калупайце ў зубах нягцем, для гэтага ёсць відэлец.



А ці не наблытаў Ньютан?



Чарадзей выдыхнуўся...



# Курʼёзы

### ЗНАЁМСТВА З ВОПЫТАМ

Рост злачыннасці ў Ізраілі прымусіла мэра Тэль-Авіва адправіцца ў Нью-Йорк, каб даць там некалькі ўрокаў — пазнаёміцца з найсучаснымі метадамі барацьбы са злачыннасцю.

З некаторым вопытам тэль-авіўскі госць пазнаёміўся адразу ж у дзень свайго прыбыцця ў Нью-Йорк: у часе вячэрняй прагулкі ён, яго жонка і персанальны ахоўнік на людной вуліцы былі вельмі кваліфікавана „абчышчаны" чатырма грабежнікамі. Паліцыя ж з'явілася на месца злачынства „з вялікім спазненнем", калі за грабежнікамі і след прастыў.

На сустрэчы з прадстаўнікамі прэсы мэр Тэль-Авіва заявіў: „Маё падарожжа па вопыт дaказала: са спазненнем на месца падзей наша паліцыя не мае ніякіх цяжкасцей."

### З ЖЫЦЦЯ ДЭПУТАТАЎ

Йозеф Фішэр, член заходненямецкага бундэстага ад партыі „зялёных", падзяліўся першымі ўражаннямі пра сваіх калег па гэтай найвышэйшай установе краіны. Фішэр назваў бундэстаг „неймаверным зборышчам алкаголікаў, ад якіх часта нясе звычайнай гарэлкай".




Калі б сабакі навучыліся размаўляць, яны б яшчэ больш кусаліся.